# Хрыстос уваскрос! І Беларусь уваскрэсне!


# ПАГОНЯ

Чацвер
12 красавіка 2001 г.
№ 15 (511)
Кошт 90 рублёў


## Велікоднае пасланне Мітрапаліта Менскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі

Узлюбленыя архіпастыры, пастыры, манахі і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!

Усемагутны Гасподзь спадобіў усіх нас вялікай міласці: у гэтыя святыя велікодныя дні Новага стагоддзя дабрыні Божай мы зноў святкуем Светлае Хрыстова Уваскрасенне! І ўпершыню ў надышоўшым трэцім тысячагоддзі ад Раства па плоці Госпада Бога і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста мы вітаем адзін аднаго і ўсё стварэнне Божае радасным велікодным вітаннем:

Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!

Па прыкладу Уваскрэслага Збавіцеля мы звяртаемся да ўсіх людзей з дабравесцем: «Мір вам, дальнім і блізкім» (Эф. 2:12). Святы апостал і евангеліст Іаан Багаслоў апавядае, што Уваскрэслы Гасподзь якраз гэтымі словамі - «Мір вам» (Ін. 20:19, 21, 26) - вітаў Сваіх апосталаў і паслядоўнікаў, шмат разоў зяўляючыся ім перад Узнясеннем да Айца Нябеснага. Таксама і святыя апосталы ў пасланнях да царкоўнай паствы перш за ўсё жадалі ёй благадаці ды міру.

З таго часу і дагэтуль святым абавязкам і неад'емнай уласцівасцю хрысціянаў стала малітва за спасланне пакутуючым людзям благадаці ды міру ад Бога Айца нашага і Госпада Ісуса Хрыста. І Уваскрасенне Хрыста Збавіцеля, Які перамог смерць, было і давеку застанецца цэнтрам хрысціянскай веры і крыніцай нязменнай надзеі на канчатковую перамогу жыцця і міру ў чалавечым родзе.

У цяперашні час раздзяленняў, якія напаткалі нашыя народы ў нядаўнім мінулым, Гасподзь ясна дае зразумець кожнаму з нас, што толькі ў адзінстве магчыма правільна славіць Бога і здзяйсняць богаўгодныя справы служэння адзін аднаму і людзям, якіх, паводле запавету Збавіцеля, трэба імкнуцца любіць, «як самога сябе» (МФ. 19:19). Так, распаўсюджванне Царквы Хрыстовай без малога 2000 гадоў таму стала магчымым толькі пры ўмове адзінства веры і супольнай пропаведзі ўсіх першахрысціянаў на чале са святымі апосталамі.

Так і ў цяперашні неспакойны час мы павінны аб'ядначца і ў святле Уваскрасення Хрыстовага ўжо не ўзгадваць крыўдаў і ўзаемных сагрэшэнняў, але ўсё прабачаць адно аднаму. Бо інакш велікоднае свято, якое павінна быць у нас, замяняецца цемраю. Але гэтага ніколі нельга дапускаць, бо Хрыстос Збавіцель сказаў пра Сваіх паслядоўнікаў: «Вы - святло свету» (МФ. 5:14).

Узлюбленыя браты і сёстры! Адзінства веры і адзінства духу церпяць сёння найбольшыя выпрабаванні з боку сілаў супраціўных. Насенне разладу і раздзялення ўсё яшчэ сеецца ў свеце. На жаль, яно нярэдка знаходзіць для сябе глебу нават у царкоўным асяроддзі, дзе прарастае ў душах «людзей неглыбокіх», як казаў Апостал. Спосаб лячэння гэтай небяспечнай хваробы знаходзім мы ў кнізе Псалмоў: «Перстань гневацца і пакінь ярасць; не кіпяціся да таго, каб рабіць зло» (Пс. 36:8). І да словаў Старазапаветнага Псалмаспеўца далучаецца Новазапаветны Апостал: «...Стрымлівай язык свой ад зла і вусны свае ад ліхіх словаў; ухіляйся ад зла і рабі дабро; шукай міру і імкніся да яго» (І Пятр. 3:10-11).

У дні Светлага Хрыстовага Уваскрасення мы звяртаем нашыя велікодныя вітанні да ўсіх хрысціянаў зямлі Беларускай і да ўсіх беларусаў у дыяспары, якія жывуць далёка за межамі Беларусі.

Мір вам, дарагія браты і сёстры!

Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!

### НАДВОР'Е

Са святам!

12, 13 красавіка - воблачна, з праясненнямі, месцамі - ападкі, вецер паўднёвы, 3-8 м/с. Тэмпература паветра 12 красавіка ўначы +4...+9, удзень +9...+14; 13 красавіка ўначы -1...+4, удзень +4...+9.



**Вербная нядзеля ў Гродне выдалася цёплым, па-сапраўднаму веснавым днём. Асаблівасцю гарадзенскіх урачыстасцяў з'яўляецца традыцыйная працэсія моладзі Гарадзенскай дыяцэзіі. Сотні маладых людзей сабраліся ля Пабернардынскага касцёла яшчэ задоўга да пачатку шэсця. Маладзёны трымалі паўтара-двухмятровыя, густоўна аздобленыя «пальмы» - вербачкі. Дзяўчаты, святочна ўбраныя, па традыцыі, пахвосталі сваіх сяброў вербачкамі, прыгаворваючы: «Вербачка б'е, за тыдзень - Вялікдзень, не будзь сіклівы, будзь здаровы, як бык». Кожная парафія імкнулася прэзентаваць сябе як найлепей. Ад Пабернардынскага касцёла ўрачыстая працэсія, на чале з арцыбіскупам Гарадзенскай дыяцэзіі Аляксандрам Кашкевічам, рушыла да галоўнай святыні Гарадзеншчыны - Фарнага касцёла. Наперадзе моладзь несла крыж. Святочнае шэсце вернікаў завяршылася літургіяй у Фарным касцёле. У сваёй прамове Аляксандр Кашкевіч адзначыў, што моладзі неабходна зразумець - у трэцім тысячагоддзі хрысціянскія каштоўнасці павінны быць лёсавызначальнымі ў іх жыцці і пераважаць над штодзённымі спакусамі: грашыма, кар'ерай, уласным самазадавальненнем.**

Эдвард Дмухоўскі

# Велікоднае віншаванне Аляксандра Кашкевіча, Біскупа Гарадзенскага

Узлюбленыя дыяцэзіяне!

Езус жыве! Гэтую праўду яшчэ раз абвесцяць радасныя велікодныя званы, прыгадае святочнае Евангелле, і стане яна цэнтральнай тэмай святарскіх казанняў. Праўда пра ўваскрэсенне Хрыста - гэта праўда, якую належыць прыняць як падмурак пад будоўлю нашага жыцця.

Як жа неабходна нашаму грамадству прасякнуцца гэтай праўдай. Таму што без перамены людскіх сэрцаў не будзе сапраўднага прагрэсу і грамадскага дабра. Свой пачатак бяруць з яе добрасумленнасць, вернасць дадзенаму слову, намаганні дзеля павышэння ўзроўню маральнага жыцця. Якой жа вялікай стратай для чалавека было выдаленне з яго сэрца менавіта гэтага падмурку будавання чалавечнасці! Заданнем Касцёла на сёння з'яўляецца напамін праўды пра вымярэнне нашай жыццёвай дарогі вечнасцю, а робім мы гэта на падставе Евангелля пра пустую ўсыпальню Хрыста.

Езус жыве! Немагчыма было зачыніць Яго ў грабніцы пад цяжкім каменем. Апошняе слова належыць Яму, таму што Ён - Бог. Гэта чарговая праўда для нас. Даверымся ж пачутай Добрай Навіне і будзем яе сведкамі. Мы жывём ужо ў часы, калі свабоднае вызнанне веры продкаў гарантавана правам. Дзякуючы за гэта Богу, не бойцеся прызнавацца да Езуса. Хрысціянін не з'яўляецца грамадзянінам другой катэгорыі; хрысціянін, як верны вучань Хрыста, павінен сваім жыццём і працай сведчыць пра вартасці, у якія верыць.

Святы Айцец Ян Павел II у апостальскім пасланні «Dies Domini» нагадвае: «Хто атрымаў ласку веры ва Уваскрэслага Хрыста, безумоўна, разумее, якое значэнне мае гэты дзень ва ўсім тыдні, і перажывае яго з глыбокім узрушэннем, якое святы Геранім выказаў словамі: «Нядзеля - гэта дзень паўстання з памерлых, гэта дзень хрысціянаў, гэта наш дзень» (DD2). Святы Айцец ва ўзгаданым пасланні заклікае: «Не бойцеся ахвяраваць Хрысту свой час! Так, адчынім Хрысту наш час, каб Ён мог напоўніць яго святлом і надаць яму кірунак. Ён з'яўляецца Тым, Які ведае таямніцу часу і таямніцу вечнасці, і ахвяруе нам «свой дзень» як нязменна новы дар свайёй любві. Ахвяраваны Хрысту час ніколі не будзе страчаным, але хутчэй часам, які мы атрымліваем для таго, каб надаць нашым узаемаадносінам з іншымі ды нашаму жыццю глыбока чалавечны характар» (DD 7).

Пустая ўсыпальня Хрыста - гэта красамоўны заклік: «Не бойцеся!» Не бойцеся праўды. Езус ёсць Праўдай - Праўдай, якая перамагла. А таму не бойцеся праўды. Няхай знікне з нашага жыцця ўсялякая фальшывасць, не бойцеся пазнаваць Езуса як Праўду. Дужа важна гэта, асабліва для нашых дзяцей і моладзі. Праўду пра ўваскрэсенне, пра сэнс людскога жыцця фальсіфікуюць сённяшнія секты, колькасць якіх хутка павялічваецца. Не бойцеся праўды, гэта значыць, - вучыце дзяцей і моладзь паважаць вартасці, носьбітам якіх з'яўляецца хрысціянства.

У пасланні «Novo millenio ineunte» Святы Айцец прыгадвае свету словы Езуса, скіраваныя да святога Пятра: «Duc in altum» (Лк 5,4) - «выплывы на глыбіню».

Выплысці на глыбіні нашага хрысціянства ў імя Уваскрэслага - гэта заданне таксама і для нас на новы век, на новае тысячагоддзе. Але толькі грунтуючыся на праўдзе і надзеі пустой грабніцы, са свядомасцю таго, што Езус жыве. Езус жыве таксама і на Беларусі! Няхай сваім блаславеннем Ён ахіне ўвесь наш край і народ! А Яго прамова няхай будзе моцай для ўсіх добрых пераменаў надыходзячых часоў.

У імя Уваскрэслага сардэчна ўсіх благаслаўляю!

**Гарадзенская гарадская арганізацыя БНФ «Адраджэньне» віншуе вернікаў усіх канфесіяў са святам Хрыстовага Уваскрашэння! Няхай гэты дзень і ўсе наступныя дні будуць для Вас светлымі, радаснымі ды шчаслівымі!**

## Улады адкрылі перадвелікодны кірмаш

**Дзевятага красавіка ў Гродне на плошчы Леніна па ініцыятыве гарадскога выканаўчага камітэта адкрыўся перадвелікодны кірмаш.**

Каля 50 прадпрыемстваў горада і бліжэйшых раёнаў штодзённа, з 10 да 15 гадзін, да 14 красавіка, прапаноўваюць жыхарам Гродна прамысловыя тавары, прадукты харчавання, мясныя вырабы, моцныя напоі, тытунёвую і пякарскую прадукцыю. У святочным гандлі бяруць удзел таксама калгасы, прыватныя фірмы, рэстараны, камбінаты школьнага харчавання.

Павал Мажэйка

## Яйкі і свабода

**Пад вокнамі старшыні гарвыканкама горада Гродна Анатоля Пашкевіча перад статуяй Ільча прапануе булкі і каўбасы прадуктовы кірмаш. Яго наладзілі з нагоды Вялікадня гарадскія ўлады.**

Сам гарадскі галава Анатоль Пашкевіч даў на фоне харчовых палатак інтэрв'ю мясцоваму тэлебачанню. На пытанне карэспандэнткі ён сказаў, што на свята трэба будзе самому купіць дахаты кандытарскіх вырабаў і яек.

Крыху павагаўшыся, Анатоль Міхайлавіч дадаў, што адзначаў Вялікдзень нават у савецкія часы. «Ну, а цяпер, увогуле, - свабода», - важка зазначыў старшыня гарвыканкама. Вось што тады свабода, дарагія беларусы! Калі можна купіць велікодных яек, і ніхто цябе не арыштуе і не адлупцуе гумовай дубінкай. Брава, Анатоль Міхайлавіч!

Сяргей Максімовіч

## Міліцыя скрала цыгарэтаў на 350 тысяч

**Пракуратура Кастрычніцкага раёна Гродна завяла крымінальную справу на двух міліцыянтаў аб'яднання «Ахова», якія напрыканцы сакавіка скралі з тытунёвай фабрыкі «Нёман» 1682 пачкі цыгарэтаў.**

«Ахоўнікаў» парадку (адзін 1977-га, а другі 1979-га года нараджэння) затрымалі супрацоўнікі Упраўлення КГБ па Гарадзенскай вобласці. Пры затрыманні міліцыянты былі апранутыя, як належыць, у форменную вопратку. Відавочна, што супрацоўнікі КГБ «вялі» міліцыянтаў, бо дзеля таго, каб вынесці пад формай 1682 пачкі цыгарэтаў, неабходна было зрабіць некалькі ходак.

Вядома, што на сённяшні дзень, адзін з міліцыянтаў, сяржант, які прызнаўся ў крадзяжы, ужо выпушчаны з-пад варты да суда. Старшына міліцыі яшчэ працягвае моцна трымацца на допытах.

Антон Клёк




# Лозунг Чарнобыльскага шляху-2001: Беларусі – жыць!

**Сябры Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў падалі ў Менскі гарадскі выканаўчы камітэт заяву з просьбай даць дазвол на правядзенне 26 красавіка з 17.00 да 19.30 мерапрыемстваў з нагоды 15-й гадавіны Чарнобыльскай трагедыі. Галоўнай акцыяй «Чарнобыльскага шляху-2001» стане масавае шэсце з плошчы Свабоды да плошчы Незалежнасці. Арганізатары мерапрыемстваў вызначылі лозунгі «Чарнобыльскага шляху» - «За Беларусь - дзеля будучыні», «Беларусі - жыць!».**

Месца збору ўдзельнікаў прызначана на плошчы Свабоды з 17-й гадзіны да 17.30, да 18.30 - Гадзіна смутку. Падчас шэсця, якое пачнецца адразу па Гадзіне смутку, арганізатары перададуць у Дом Ураду, што знаходзіцца на плошчы Незалежнасці, петыцыі па праблемах Чарнобыля.

У межах мерапрыемстваў з нагоды 15-й гадавіны Чарнобыльскай катастрофы аб'яднаная апазіцыя запланавала яшчэ шэраг мерапрыемстваў.

18-19 красавіка пройдзе міжнародны кангрэс «Свет пасля Чарнобыля», арганізаваны Генадзем Грушавым, старшынём фонду «Дзецям Чарнобыля». На 20 красавіка Іван Нікітчанка, член-карэспандэнт НАН Беларусі арганізоўвае «круглы стол» па чарнобыльскай тэматыцы. Таксама на 26 красавіка ў каталіцкіх, праваслаўных, пратэстанцкіх храмах замоўленыя малебны за памерлых ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

У Гродне 10 красавіка таксама створаны аргкамітэт па правядзенні мерапрыемстваў на 26 красавіка. Аргкамітэт, куды ўвайшлі сябры БНФ «Адраджэньне» і «Маладога Фронту» не планує праводзіць у горадзе масавых акцыяў. Па словах старшыні БНФ Сяргея Мальчыка, «для Гродна чарнобыльская праблема менш актуальная, чым для іншых рэгіёнаў Беларусі». Сябры аргкамітэту плануюць замовіць ў хрысціянскіх храмах горада малебны за пацярпелых ад аварыі.

У планах арганізатараў таксама ўшанаванне падзеяў дзвюхгадовай даўніны, калі міліцыя жорстка збіла ўдзельнікаў гарадзенскага Чарнобыльскага шляху.

**Павал Мажэйка**

# Не трэба пляваць у калодзеж

**«Гродзенская праўда» адгукнулася маленькай інфармацыяй на праведзены 25 сакавіка ў Гродне санкцыянаваны мітынг, прысвечаны 83-й гадавіне ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Інфарматар, які сціпла падпісаўся «Наш кар.», прадэманстраваў уласную недасведчанасць і неаб'ектыўнасць, уласцівую кішэнным СМІ. БНР, кажа горапісар, «не праіснавала і года». І што з гэтага? У Латвіі самастойная рэспубліка ў тым жа 1918 годзе была абвешчана ўсяго на некалькі гадзін. Таварышы бальшавікі перавярнулі жыццё на свой капыл. Аднак сучасная, адроджаная Латвія вядзе адлік незалежнасці менавіта з тых кароткіх імгненняў гісторыі. І ганарыцца гэтым.

Сучасныя беларускія кіраўнікі не ганарацца, як і збальшэвізаваная значная частка грамадства, уключаючы і аўтара інфармацыі ў «Гродзенскай праўдзе». Яны дагэтуль перакананыя, што Беларусь бярэ свой пачатак выключна з 7-га кастрычніка 1917-га ці з 3-га ліпеня 1944 года...

Не пасаромеўся аўтар цыдулкі і паспекуляваць на памяці БНР. Маўляў, «размова пра яе для некаторых з'яўляецца спробай нажыць сабе пэўны палітычны капітал». Некаторых удзельнікаў паклікалі ў суд, рашэнне якога будзе, відавочна, суровым. Ніштo сабе капіталец! Схадзіў бы гэты «Наш кар.» на судовыя пасяджэнні, напісаў бы ў сваю «аб'ектыўную» газету праўдзівы рэпартаж. Але слабо табе, таварыш...

Вось напісаць, што калона ўдзельнікаў мітынгу можа перашкодзіць руху грамадскага транспарту, - гэтага колькі заўгодна. У дні розных афіцыйных святаў рух папросту перакрываецца. А што робіцца, калі завітае прэзідэнт? Чаму тады дзяржаўныя пісарчукі сціпла маўчаць, не выступаюць у абарону так любых простых грамадзянаў.

Перакручвае інфарматар і пра Еўропу. Прыпісвае выступоўцам на мітынгу словы, маўляў, як толькі тыя краіны адчыняць для нас дзверы, дык адразу «шчаслівa і заможна зажывём». Можна сказаць упэўнена: горш як цяпер жыць не будзем. З Расеяй саюз нібыта заключаны пяць гадоў таму, а заможнага жыцця беларус нешта не бачыць. Высновa адна: ні Еўропа, ні Расея шчасця нам не прынясуць. Яго мы павінны здабыць самі, выгадна будуючы свае адносіны з Еўропай і Масквой.

Атрымліваецца, што за просты народ улада ажно гібее. Тады чаму гэты народ так бедна жыве? Няхай бы «Гродзенская праўда» надрукавала б альтэрнатыўныя развагі апазіцыйнага грамадскага дзеяча. Толькі гэтага ніколі не будзе. Бо так званыя дзяржаўныя журналісты павінны трымаць нос па «вертыкалі».

А то і па носе могуць атрымаць ад гэтай установы.

**Уладзмір Кавалёў**

# Данута Макей: «Мне вельмі балюча бачыць, як настройваюць народ на вайну з прафсаюзамі»

**Гарадзенскія прафсаюзы распачалі адкрытае змаганне з моцным супрацьдзеяннем, якое чыніць дзяржава прафсаюзнаму руху. Данута Макей, старшыня Гарадзенскага гарадскога камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі, сябра Федэрацыі Прафсаюзаў Беларускай і цэнтральнага камітэта галіновага прафсаюза выступіла з адкрытым лістом да памочніка Аляксандра Лукашэнкі Сяргея Посахава. З'яўленне ліста Данута Макей пракаментавала карэспандэнту ПАГОНІ наступным чынам: «палітыка, якую вядзе сёння дзяржава ў дачыненні да прафсаюзаў, перашкаджае мне працаваць. Мне вельмі балюча бачыць, як настройваюць народ на вайну з прафсаюзамі». Сёння мы прапануем вашай увазе адкрыты ліст Дануты Макей да Сяргея Посахава.**

«Паважаны Сяргей Аляксеевіч! Звярнуцца да Вас мяне вымусілі шматлікія пытанні і абурэнне педагогаў-прафсаюзных актывістаў. Я ведаю Вас з пачатку 80-х гадоў як калегу па партыйнай ідэалагічнай рабоце. Пазней, у 1994 годзе, я сустрэлася з Вамі, палітработнікам у адстаўцы, у ролі даверанай асобы будучага прэзідэнта краіны Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Давайце ўзгадаем, як гэта было... Вам, арганізатару сустрэчаў «апальнага» тады А.Лукашэнкі з выбаршчыкамі, органы мясцовай улады ўсяляк спрабавалі перашкодзіць і забяспечыць перамогу Вячаславу Кебічу. Вы ўвесь час звярталіся тады па падтрымку да прафсаюзаў, у прыватнасці, да нашага гаркама работнікаў адукацыі і навукі.

Калі прызначаная сустрэча настаўніцкага прафсаюзнага актыву Гродна з А.Лукашэнкам у памяшканні абласнога Інстытута павышэння кваліфікацыі аказалася немагчымай (з прычыны адключэння там вады і святла), мы экстранна перанеслі гэтую сустрэчу ў залу Савета прафсаюзаў. Менавіта тады, перад выхадам у залу да настаўнікаў, Вы і Аляксандр Рыгоравіч падалі мне, нясмеламу прафсаюзнаму работніку, урок: якімі належыць быць прафсаюзам ды іх лідарам. Цытую Вас па сваім нататніку: «Прафсаюзы ды іх лідары не маюць права быць кішэннымі, яны павінны быць здаровай, канструктыўнай апазіцыяй дзяржаўным органам улады. Вы выяўляеце інтарэсы працоўнага народа і абавязаны змагацца за іх, патрабуючы зменаў да лепшага. У гэтым ваш абавязак і заканадаўчае права. Хто, калі не вы, зменіць прагнілы сацыяльна-эканамічны курс краіны?!»...

Сустрэча прайшла добра. Вы вялі яе натхнёна, разам з А.Лукашэнкам дзякавалі нашаму галіноваму прафсаюзу за актыўную жыццёвую пазіцыю, хвалілі за грамадзянскую мужнасць і патрыятызм.

Мінула сем гадоў. І сёння, аналізуючы працэсы, што адбываюцца ў краіне, даводзіцца з горыччу канстатаваць, што Вы, Сяргей Аляксеевіч, усё паставілі з ног на галаву. Тое, што ў 1994-м Вы лічылі абавязкам і правам прафсаюзаў, цяпер Вамі ж называецца антыдзяржаўнымі дзеяннямі, «палітычным шоу» і гэтак далей. Вы, з'яўляючыся памочнікам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сувязях з грамадскімі арганізацыямі, сталі галоўным дырыжорам палітыкі здушэння прафсаюзаў толькі за тое, што яны спрабуюць стаць такімі, якімі Вы іх бачылі ў 1994 годзе.

Мне вельмі сорамна перад маімі калегамі-настаўнікамі за Вас і за тое, што робіцца ў нашай краіне ў дачыненні да прафсаюзаў. Вы аб'явілі вайну прафсаюзам, забыўшыся на тое, што гэта - вайна з уласным народам. З Вашай падачы прэзідэнт, а за ім розныя зімоўскія робяць зняважлівыя заявы на адрас прафсаюзаў ды іх лідараў. З Вашага «блаславення» накласці забарону на выхад у дзяржаўныя СМІ прафсаюзаў, людзі могуць даведацца невялікую крыху праўды толькі праз незалежную прэсу. Гэта па Вашай установцы прадстаўнікі мясцовай вертыкалі «выкручваюць рукі» прафлідарам, каб тыя адмежаваліся ад ФПБ, выйшлі з яе. Паводле вашага ж указання, органы мясцовай улады і кіравання падштурхоўваюць кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстановаў да парушэння заканадаўства аб прафсаюзах, падштурхоўваюць на канфрантацыю з прафкамамі.

У тым, што ўсе няздобрыя справы ў дачыненні да прафсаюзаў - справа Вашых рук, мы пераканаліся, калі прачыталі Ваша інтэрв'ю Інтэрфаксу, апублікаванае ў шматлікіх газетах, у тым ліку ў «Гродзенскай праўдзе». Сваімі дзеяннямі Вы ўчыняеце непапраўную шкоду дзяржаве. Вы зняславілі прэзідэнта і кіраўніцтва краіны ў вачах сябраў прафсаюза і ўсіх нашых грамадзянаў. Вы агańбавалі нашу Беларусь у вачах міжнароднай грамадскасці, якая вымушана абараняць нас у нашым уласным доме.

Апамятайцеся і спыніцеся, Сяргей Аляксеевіч! Пры чарговым выхадзе ў эфір узгадайце, калі ласка, і працытуйце самога сябе ў дачыненні да прафсаюзаў у 1994 годзе. І пакіньце пляміць прафсаюзы ў СМІ. Паважайце Канстытуцыю і дзеючае заканадаўства аб прафсаюзах. Можа, гэта верне Вам павагу грамадзянаў краіны, сябраў беларускіх прафсаюзаў.

**Данута Макей,**
**старшыня Гарадзенскага ГК прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі, сябра ЦК галіновага прафсаюза, сябра ФПБ»**

# Настаўнік, калі прымусіш сябе паважаць?

**Гэта за каго сёння дзеючая ўлада прымае небараку-настаўніка, калі замест таго, каб сапраўды і на самой справе рэальна штосьці зрабіць для паляпшэння яго незайздроснага стану, на самой справе проста вешае на далікатныя, інтэлігентныя вушы настаўнікаў чарговую порцыю лапшы-хлусні ды пустых абяцанак.**

Як вядома, зусім нядаўна, перад чарговым падвышэннем у краіне «мінімалкі», вуснамі кіраўніка ўрада Ярмошына з экранаў БТ, як падарунак настаўніцтву, была агучана заява аб першачарговым падвышэнні заробнай платы менавіта настаўнікам.

Здавалася, нарэшце, улада стала павярочвацца тварам да праблемаў настаўнікаў. Але прайшло зусім няшмат часу, і стала вядома, што ад абяцанага падвышэння заробку настаўніку хочацца заплакаць. Як ужо высветлілася, пераважная большасць настаўнікаў рэальна атрымае прыбаўку да свайго заробку не больш як 20 працэнтаў. У той час як «мінімалка» ў краіне падвысілася амаль што на 60 працэнтаў. Пры гэтым, трэба заўважыць, што ад усіх настаўнікаў ціха і зладзеявата ўлада скрала (іншага слова і не прыдумаеш) працэнтныя надбаўкі за катэгорыю. А зусім нядаўна ў сувязі з гэтым паказаная на БТ карцінка з гневам «бацькі» нічога ў гэтай сітуацыі не змяніла, ўсяго толькі стала чарговым папуліцкім рэверансам усенароднаабранага.

Між тым, самай балючай для настаўнікаў на месцах стала вестка пра тое, каб бліжэйшым часам яны не чакалі своечасовай выплаты сваёй зарплаты. У лепшым выпадку ўлады на месцах выплацяць заробную плату настаўнікам не раней, як напярэдадні велікодных святаў. А гэта значыць, з адтэрміноўкай на адзін месяц. У горшым выпадку, як сцвярджаюць некаторыя крыніцы, блізкія да ўладных кабінетаў, настаўнікам свой заробак трэба чакаць бліжэй да заканчэння пасяўной - недзе ў траўні - і амаль што з двухмесячнай адтэрміноўкай.

На пытанне пра тое, як сёння можа жыць настаўнік на свой жабрацкі заробак, які, да таго ж, яшчэ выплочваецца ад выпадку да выпадку, прадстаўнікі ўлады адказваць не жадаюць, пацiскаючы плячыма. З усяго вышэйсказанага можа вынікаць толькі адно: нахабства і цынізм у дачыненні да сваіх суайчыннікаў магчымыя толькі ў выкананні самай «народнай улады» і ва ўмовах, калі гэты здзек пакуль ён не сыходзіць з рук. І, напэўна, усё гэта будзе працягвацца да той пары, пакуль настаўнік не абудзіцца ад летаргічнага сну і не пазбавіцца ад безаглядняга вернападданства ды прымусіць сённяшнюю ўладу сябе паважаць, а гэта значыць лічыцца.

**Мікалай Уласевіч,**
**настаўнік**
**вёска Варняны**

# Прафсаюз ушануе ветэранаў адукацыі

**19 красавіка Гарадзенскі гарадскі камітэт прафсаюзаў работнікаў адукацыі і навукі правядзе ў Палацы «Юнацтва» Гарадское свята юбіляраў года.**

Гэта традыцыйнае свята, якое праводзіцца ў Гродне ўжо пяты год. Прадстаўнікі прафсаюза ўшануюць усіх ветэранаў-работнікаў установаў адукацыі, якім ужо больш за 50 гадоў. На сённяшні дзень у Гродне такіх пражывае каля 500 чалавек.

Арганізатары мерапрыемства на сёлетняе святкаванне не атрымалі фінансавай дапамогі ад мясцовых уладаў, таму падарункі будуць сціплыя. Найбольш старым і нямоглым будуць уручаны «вітамінныя канверты».

**Павал Мажэйка**

# Колькасць псіхічных захворванняў няўмольна расце

**26 тысяч псіхічна хворых пражываюць на сённяшні дзень ў Гарадзенскай вобласці. Толькі за апошнія дзесяць гадоў на ўлік у Гарадзенскі абласны псіханеўралагічны дыспансэр было пастаўлена 5000 чалавек. Колькасць псіхічных захворванняў няўмольна павялічваецца перш за ўсё за кошт росту наркаманіі ды алкагалізму (25-30 працэнтаў ад агульнай колькасці псіхічна хворых складаюць хворыя менавіта наркалагічнага профілю). Наша краіна займае таксама лідзіруючыя пазіцыі ў свеце па ўзроўню суіцыдаў.**

Гэтыя звесткі былі пададзеныя ўдзельнікамі прэс-канферэнцыі «Псіхічнае здароўе нацыі», якая прайшла на мінулым тыдні ў абласным Цэнтры здароўя з нагоды адзначэння 7-га красавіка Сусветнага дня псіхічнага здароўя.

Перад журналістамі выступілі галоўны псіхіятр упраўлення аховы здароўя Эдуард Станько, загадчык кафедры псіхіятрыі Гарадзенскага дзяржаўнага медуніверсітэта Сяргей Абухаў, загадчык кафедры псіхалогіі Гарадзенскага дзяржуніверсітэта імя Я.Купалы Барыс Кавалёў і намеснік галоўнага ўрача абласнога наркалагічнага дыспансэра Аляксандр Мірошнікаў.

Паводле словаў Барыса Кавалёва, у Беларусі назіраецца сталая тэндэнцыя да росту колькасці псіхічных расстройстваў, што звязана са зменамі з сацыяльна-эканамічным жыцці грамадства. На ягоную думку, адбываецца дэфармацыя асобы чалавека з-за змянення сістэмы вартасцяў. Людзям патрэбна псіхалагічная падтрымка. Таму Барыс Кавалёў падкрэсліў неабходнасць стварэння ў Гродне абласной псіхалагічнай службы, якая б дзейнічала на ўсіх узроўнях грамадскага жыцця: на прадпрыемствах, у сацыяльнай сферы, у навучальных установах.

Мерапрыемствы з нагоды Дня псіхічнага здароўя будуць доўжыцца ў нашым горадзе да 20 красавіка. З гэтай жа нагоды 10 красавіка ў Гарадзенскім дзяржаўным медуніверсітэце адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Актуальныя пытанні псіхіятрыі і псіхатэрапіі», у якой прынялі ўдзел вядучыя навукоўцы універсітэта. 11 красавіка ў псіханеўралагічным дыспансеры прайшоў дзень адчыненых дзвярэй. Да 20 красавіка там таксама працуюць прамыя тэлефонныя лініі, па якіх кожны можа атрымаць параду псіхолага або псіхіятра, ці выказаць свае прапановы наконт паляпшэння арганізацыі аказання псіхалагічнай дапамогі насельніцтву (тэлефоны 44-43-69, 47-13-74, 47-14-68 - ў працоўныя дні; тэлефон 72-27-84 - у выходныя).

**Рэгіна Станкутэ**

# У гарадзенскіх трушчобах гіне будучыня Беларусі!



**Нядбайныя сем'і, мне здаецца, - адна з самых галоўных праблемаў усяго грамадства. Але не ўсе гэта адчуваюць, не ўсе бачаць гэты жах і таму не ўсе змогуць зразумець і паспачуваць тым сем'ям, якія ўжо пазбаўлены ўвагі і пяшчоты. Менавіта з гэтай нагоды я і зрабіла «абход» некаторых такіх сем'яў з мэтай паказаць нашым чытачам іх жыццё.**

### «На свята я куплю ім банан...»

Шматпавярховы дом каля магазіна «Баторыя». Звонім у дзверы... Адчыняе высокая маладая жанчына гадоў 30-ці. Непрычасаныя валасы, спалоханы позірк, старое і бруднае адзенне. У самой кватэры - брудная падлога, абшарпаныя сцены, на пліце варыцца нешта падобнае на суп...

- Гэта ўсё мае бацькі... Яны не далі мне ні адукацыі, ні патрэбнага жыцця.

У сям'і Максімавых (прозвішча зменена) двое дзяцей: старэйшая Вольга ходзіць у пяты клас, малодшай Юлі пяць гадоў.

- Жыццём маё жыццё не назавеш. Зараз мне 36 гадоў, а замуж так і не пайшла. Нарадзіла першае дзіця ў 26 гадоў. Бацька збег.

*- Вы што-небудзь робіце для таго, каб змяніць жыццё? Вам жа трэба дзяцей у свет вывесці. Вы працуеце?*

- Я хворая і нідзе не працую, бо не магу. А так я стараюся... Вось зараз планую схадзіць з Юлькай у музей. Калі-нікалі куплю ім бананы. У мяне дапамога 50 тысяч рублёў: хапае толькі на камунальныя паслугі і на ежу.

Тут у пакой забегла тая самая Юлька, з якой матуля ў хуткім часе пойдзе ў музей і на наступнае свята купіць банан...

*- Юля, як справы? Як школа? Вучыцца хочаш?*

- Не хачу. Я шмат хварэла і таму нічога не разумею, пра што гавораць настаўнікі на ўроках...

### «Я люблю сваю маму - яна адзіная...»

Наступная «сям'я» ўразіла мяне яшчэ больш. Нас запрасілі на кухню. Ужо звычайная для мяне карціна: шпалераў на сценах, як і фіранак на вокнах няма, паўсюль - пыл, на падлозе ляжыць матрац, мяккая цацка і цэлы «батальён» прусакоў бегае туды-сюды.

Са мною размаўляе старэйшы сын сям'і, якому нядаўна споўнілася 11.

*- Дзяніс, пра якую сям'ю ты марыш?*

- Хачу здаровую, прыгожую маму, хачу добрага бацьку. Каб у нас быў вялікі дом і шмат-шмат сабакаў. Хачу па выхадных хадзіць адпачываць у парк.

Гэта толькі мары, дарэмныя і нязбытныя мары. А на самой справе: матуля-алкагалічка, бацька недзе бадзяецца па гораду, алкаш, аліментаў не дачакаешся, наведвае раз-пораз. У сям'і пяцёра дзяцей: 1990, 91, 92, 93 і 94-га гадоў нараджэння.

*- Дзяніс, калі б табе прапанавалі змяніць сваю сям'ю на іншую, такую, дзе ёсць усё, ты б пагадзіўся?*

- Не, я люблю сваю матулю, яна ў мяне адзіная. І бацьку свайго я люблю. Ён, калі прыходзіць, прыносіць буракі (!!!). Я хачу, каб мае ўласныя дзеці жылі лепш. Для гэтага я вучуся. У школе я - выдатнік. Хачу стаць пажарнікам.

**...Словы тут бяссільныя. Трэба на ўласныя вочы ўбачыць увесь гэты жах. Недагледжаныя дзеці, бацькі-алкаголікі, адсутнасць спрыяльных умоваў для жыцця - мне здаецца, усё гэта павінна выйсці на першае месца ў справах нашай дзяржавы, бо гэта наша будучыня.**

**Надзея Салыга**

# У Горадні здымаецца кіно

**Зь мінулага тыдня ў гатэлі «Турыст» праходзіць адбор людзей для «масоўкі» мастацкага фільму «Бабін яр», які будзе здымацца з 21-га па 23-е красавіка на вуліцы Урыцкага.**

Фільм распавядае пра сапраўдную гістарычную падзею - зьнішчэньне фашыстамі ў 1941 годзе ў Кіеве 30 тысячаў габрэяў. «Бабін яр» - амэрыканскі праект, але ў яго здымках удзельнічаюць рэжысёры некалькіх краінаў. Здымкамі ў Горадні кіруе расейскі кінарэжысёр Дзьмітрый Астрахан.

Для масоўкі мусіць быць адабрана 1000 чалавек рознага полу і ўзросту. За адзін працоўны дзень з васьмі ранку да васьмі вечару яны будуць атрымоўваць па тры тысячы рублёў. Гарадзенцы ахвотна ідуць здымацца ў кіно. Паводле словаў Яўгена Фалеева, які ўдзельнічае ў кінаадборы, да іх прыходзіць досыць шмат людзей, і набор адбываецца хутка.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Чэк такс-фры можна абнаявіць у Гродне

**З красавіка Гродзенскае абласное ўпраўленне ААТ «Белпрамбудбанк» пачало аказваць паслугі па выплаце наяўных сродкаў у замежнай валюце ўладальнікам чэкаў такс-фры кампаніі «Глобал Рыфаўнд». «Белпрамбудбанк» - адзіны банк у вобласці, які аказвае падобныя паслугі.**

Такім чынам, чалавек, які зробіць за межамі Беларусі пакупку, аформіць чэк такс-фры і па нейкіх прычынах не здолее на мяжы атрымаць кампенсацыю падатку на дабаўленую вартасць, зможа зрабіць гэта ў Белпрамбудбанку. Аднак сума будзе меншая, чым пры кампенсацыі ўласна на мяжы. Напрыклад, пры неабходнасці вяртання 229 польскіх злотых банк верне кліенту толькі 180.

На сённяшні дзень Белпрамбудбанк выплачвае наяўныя сродкі толькі за чэкі такс-фры, афармленыя ў Польшчы, у бліжэйшых планах - пачаць працу з нямецкімі чэкамі. Паводле інфармацыі, атрымаць кампенсацыю можна ў валюце па жаданню кліента -амерыканскіх доларах, польскіх злотых, нямецкіх марках, беларускіх рублях. Чэк такс-фры дзейнічае на працягу трох месяцаў з часу перасячэння мяжы.

**Павал Мажэйка**

# Вось ужо і смецце прыбіраем па загаду

**У Гродне праводзіцца месячнік па прывядзенні гарадскіх тэрыторыяў у належны санітарны стан. Падчас месячніка чыстага горада, які працягнецца да 2-га траўня, камунальныя службы ачысцяць гарадскія вуліцы і зялёныя зоны ад смецця і пяску, зробяць разметку асфальту, падрэжуць дрэвы, разаб'юць газоны, пачнуць рамонт фасадаў будынкаў.**

Гарвыканкам разам з гарадскім Саветам дэпутатаў звярнуўся да працоўных калектываў, грамадскіх арганізацыяў, ветэранаў і моладзі з заклікам «папрацаваць супольна, узгадаць цудоўную традыцыю нашага горада - агульную справу падымаць талакой». Таксама гарвыканкам заклікаў не заставацца ўбаку і зрабіць свой унёсак прадпрымальнікаў і работнікаў камерцыйных структураў.

**П.М.**

# Да Гомеля за две гадзіны!

**10 красавіка ў продаж паступілі білеты на першы авіярэйс па маршруту Гомель - Менск - Гродна, які 16 красавіка ажыццявіць самалёт АН-24 дзяржпрадпрыемства «Аэрапорт Гомельавія». Такім чынам, з 16 красавіка адновяцца рэгулярныя паветраныя зносіны паміж трыма абласнымі цэнтрамі Беларусі.**

Палёты па гэтаму маршруту пачнуцца з адтэрміноўкай на тры дні ад першапачатковай запланаванай даты. Затрымка з распаўсюджваннем білетаў была выклікана доўгім зацвярджэннем тарыфаў на пералёт. Аднак кіраўніцтва прадпрыемства мяркуе, што за астатнія дні яму ўдасца прыцягнуць пасажыраў на гэты рэйс, як і на наступныя, якія будуць ажыццяўляцца тройчы ў тыдзень - па панядзелках, серадах і пятніцах.

Уключаючы 45-хвілінную стаянку ў аэрапорце «Менск-1», падарожжа з Гомеля ў Гродна зойме 2 гадзіны 10 хвілін. Кошт білета ад Гомеля да Менска складае 10 тысяч рублёў, да Гродна - 19,5 тысячы. У той жа час сабекошт палёту як мінімум у тры разы вышэй, і пытанне, якім чынам гэтая розніца будзе кампенсавацца гомельскай авіякампаніі, пакуль застаецца адкрытым.

**Ірына Шанцава**

# Радзівонцава супраць Пісальніка

**Старшыня праўлення гарадзенскай грамадскай дабрачыннай арганізацыі Цэнтр міласэрнасці «Сям'я» Валянціна Радзівонцава вырашыла праз суд спагнаць з журналіста газеты «Глос з-над Немна» Анджэя Пісальніка адзін мільён беларускіх рублёў у якасці кампенсацыі за нанесеную ёй маральную і матэрыяльную шкоду. Працэс мае адбыцца 18 красавіка.**

Акрамя грашовай кампенсацыі, у сваім спасыску грамадзянка Радзівонцава патрабуе, каб суд Ленінскага раёна Гродна абавязаў журналіста падаць у «Гродзенскай праўдзе» і «Вечернем Гродно» абвяржэнне фактаў, прыведзеных у артыкулах «За счастливое детство» і «За счастливую юность». Гэтыя матэрыялы былі надрукаваныя ажно восем месяцаў таму (!) ў бюлетэні «Рэпортёр», які выходзіў улетку мінулага года пад рэдактарствам Анджэя Пісальніка мізэрным накладам - усяго 299 паасобнікаў. Як стала вядома карэспандэнту ПАГОНІ, Пісальнік не з'яўляецца аўтарам гэтых артыкулаў. Больш таго, падобны матэрыял пасля надрукавала рэспубліканская газета «Беларускі час» (ад 19 студзеня 2001 года).

**Марцін Салодкі**

# «Лягчэй памерці, чым заплаціць»

**Наш парламент прыдумаў, як знайсці для бюджэту дадатковыя два мільярды беларускіх рублёў. Зараз на разглядзе знаходзіцца праект новага падатковага кодэкса. Трэба думаць, што бліжэйшым часам падаткі зноў павялічацца. Гэта тычыцца ў першую чаргу фіксаванай стаўкі і падаходнага падатка.**


Леанід Злотнікаў (у цэнтры) шукае інвестыцыі

Беларускаму падаткаабкладанню было прысвечане ў мінулы чацвер пасяджэнне гарадзенскага прэс-клуба «Ініцыятыва» ў рамках праекта МФК «Развіццё малога і сярэдняга бізнесу ў Беларусі».

Гаворка прысутных, сярод якіх былі прадстаўнікі дзяржструктураў, бізнесу і прэсы, зайшла ўжо не пра шляхі рэканструявання сістэмы падаткаабкладання, а пра маральнасць дзяржаўнай палітыкі. Велічыня пабораў у дзяржаўную кішэню ўзрасла так, што падаткаплацельшчыкі стогнуць і енчаць. Як, напрыклад, госць «круглага стала», прадстаўнік гарадскога Бізнес-цэнтра, што эмацыйна заўважыў:

- Дзяржава паставіла нас у такую позу, што паважаць яе мы ўжо не можам... Лягчэй памерці, чым заплаціць усе падаткі.

Праблемы падаткаабкладання як ніякія іншыя блізкія кожнаму. Усё больш грамадзянаў атрымоўваюць уліковы нумар падаткаплацельшчыка і пішуць дэкларацыі аб даходах. Расце і армія кантралёраў. Празмерны ўзровень падаткаабкладання даводзіць да галечы прадпрыемствы. Па вобласці ажно трэцяя частка суб'ектаў гаспадарання маюць страты. Паводле словаў намесніцы начальніка абласной падатковай інспекцыі Лідзіі Сямашкі, за першы квартал мясцовы бюджэт недавыкананы на чатыры мільярды рублёў. А паколькі грошы трэба недзе браць, будуць павялічваць падаткі і рабіць больш жорсткім кантроль. Эксперт па эканамічных пытаннях МФК Леанід Злотнікаў думае, што абмеркаванне праблемы шырокай грамадскасцю дапаможа знайсці выйсце з дылемы нястачы грошай у бюджэце з аднаго боку і «драконаўскіх» падаткаў з другога.

- Асноўныя фонды прадпрыемстваў ужо праедзеныя. З іх забіраюць у бюджэт усё. Калі не знізіць падаткі да ўзроўню хаця б расейскага - прамысловасць напаткае лёс калгасаў. Калі ж не забіраць грошы - не будзе чым плаціць пенсіі. Праблема невырашальная без правядзення эканамічнай рэформы і прыцягнення замежных інвестыцыяў.

Інвестыцыі цікавяць усіх. Да таго ж, на «круглым стале» прэс-клуба «Ініцыятыва» была прадстаўніца Вашынгтонскага офіса Міжнароднай Фінансавай Карпарацыі Ірына Ліхачова:

- Я прадстаўляю праграму МФК «Партнёрства ў развіцці прыватнага сектару». Наша мэта - шукаць інвестыцыйныя магчымасці праз развіццё прыватнага сектару. Мая задача, у прыватнасці - наладжваць кантакты паміж урадам, донарамі інвестыцыяў і сферамі бізнесу, куды гэтыя інвестыцыі можна накіраваць.

*- Як Вы ацэньваеце магчымасць інвеставання ў Беларусь?*

- У структуры нашай праграмы Беларусь - не на першым месцы. Цяжка пакуль гаварыць пра інвестыцыі. Але мы ажыццяўляем тут праекты тэхнічнага спрыяння і работы з грамадскасцю.

*- Можна гаварыць, што Ваш візіт - свайго роду праверка работы праекту МФК «Развіццё малога і сярэдняга бізнесу»?*

- Не, гэта азнаямляльная паездка. Мая мэта - правільна інфармаваць падаткаплацельшчыкаў краінаў-донараў пра неабходнасць фінансавання такіх праектаў, у прыватнасці - вышэйназванай праграмы.

*- На Вашу думку, як працуе ў Беларусі праект МФК?*

- Мне падаецца, паспяхова. Падвышаецца ўзровень эканамічнай пісьменнасці, шырока асвятляюцца пытанні прадпрымальніцтва. У выніку паціху мяняецца грамадская думка пра бізнес. Галоўнае, што праблема агучваецца і абмяркоўваецца шырокай грамадскасцю.

*- Ад Вашых уражанняў у Беларусі будзе залежаць далейшы лёс праекту МФК?*

- Не думаю, што непасрэдным чынам. Я толькі назіраю. Рашэнні прымаюцца іншымі.

Праблема падаткаў і падаткаплацельшчыкаў абмяркоўвалася на прэс-клубе вельмі горача. Але падаткі ізноў павялічаць, і нас не спытаюць. Таму што дзяржаўны прынцып застаецца - адымай і валодай.

# Кошты растуць і будуць расці!

**Зыходзячы з дадзеных Мінстата, рост спажывецкіх коштаў у Беларусі па выніках сакавіка не перасягне пяціпрацэнтны рубеж. Адпаведна падлікам эканамістаў аналітычнага цэнтра «Рынкавая эканоміка», гэты паказчык у сакавіку значна вышэйшы - 8,1 працэнта.**

Розныя дадзеныя па ўзроўню інфляцыі ў Беларусі на аснове дзяржаўных і незалежных крыніцаў - гэта не навіна. Аднак, варта звярнуць увагу, што розніца ў паказчыках ужо больш за 60 працэнтаў і ёсць тэндэнцыі да павелічэння пазначанай маржы.

Яшчэ большая розніца па «прагнозах» росту цэнаў на красавік-чэрвень 2001 года сярод дзяржаўных органаў Беларусі. Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь, прымаючы Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2001 год», забараніў рост коштаў не больш чым на 3,5-4 працэнты ў месяц. Савет Міністраў Беларусі Пастановай N398 зацвердзіў крыху іншыя гранічныя індэксы змянення адпускных коштаў. З красавіка па чэрвень 2001 года на дзесяць працэнтаў «павінны» ўзрасці цэны ў лясной, лёгкай прамысловасці і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў, на сем працэнтаў - у галінах транспарту, сувязі і ў культурнай сферы. Аднак, гэтай жа Пастановай Савета Міністраў значна скарочаны пералік тавараў і паслуг, цэны на якія рэгулююцца дзяржавай, амаль на 80 працэнтаў. Зразумела, што пасля такой Пастановы рост коштаў не ўтрымаецца ў рамках дзяржаўных прагнозаў...

Цікава, што і дзяржаўныя чыноўнікі, і незалежныя эксперты не адмаўляюць: Пастанова N398 Савета Міністраў стала вынікам перамоваў беларускага ўрада з прадстаўнікамі МВФ аб праграме маніторынгу, якая фактычна пачала рэалізоўвацца з першага красавіка.

Вельмі дзіўны «загад» росту цэнаў выдаў А.Лукашэнка ў мінулы чацвер. Падчас выступлення перад чыноўнікамі А.Лукашэнка забараніў падвышаць кошты на тавары і паслугі больш чым на 0,5-1 працэнт у месяц. Сапраўды, мудрае рашэнне.

Такім чынам, па будучаму росту цэнаў і наогул па тэмпах інфляцыі ў Беларусі «выказаліся» прадстаўнікі амаль усіх галінаў улады Беларусі. Хіба толькі судовая пакуль маўчыць. І Нацыянальны сход, і Савет Міністраў, і А.Лукашэнка прымаюць, пастанаўляюць, зацвярджаюць, загадваюць, «прагназуюць» розны рост спажывецкіх цэнаў. А як жа адзінства дзяржаўнай улады, як адзін з важнейшых канстытуцыйных прынцыпаў канстытуцыйнага ладу ў Рэспубліцы Беларусь (артыкул 6 Канстытуцыі Беларусі ў рэдакцыі 1996 года)? Рашэнні ж дзяржаўных органаў супярэчаць адно аднаму і бясконца карэктуюцца.

Дык як жа будуць расці кошты ў Беларусі? На 0,5-1 працэнт ў месяц, на 3,5-4 працэнты ў месяц альбо ўвогуле рост цэнаў дзяржавай ужо «адпушчаны»?

Калі верыць рэальным статыстычным дадзеным, то кошты адпушчаныя ўжо даўно. Напрыклад, цэны на чыгуначныя білеты па Беларусі за апошнія два гады падаражэлі ў 22 разы (**гл. ПАГОНЮ ад 29 сакавіка 2001 года**), а глазураваны сырок з траўня 2000 года даражэў больш як 20 разоў - з 38-мі беларускіх рублёў да 169 беларускіх рублёў. У той жа час, паводле дадзеных Мінстата, цэны растуць толькі на тры-чатыры працэнты ў месяц, часам на пяць.

І сапраўды, 0,5-1 працэнт росту спажывецкіх коштаў у Беларусі загаданы, і загад трэба выконваць. Хаця б на паперы, адпаведна статыстычным дадзеным Мінстата Беларусі.

**Максім Жмінда**

# Будуецца дарога Кузьніца-Скідаль

**22 мільярды беларускіх рублёў плануюць выдаткаваць на Гарадзеншчыне, каб добраўпарадкаваць аўтамагістралі агульнабеларускага значэння, якія праходзяць па тэрыторыі Гарадзенскай вобласці. 5,3 мільярда ад усёй сумы будзе скіравана на ўтрыманне і бягучы рамонт дарог; 9,9 і 3,5 мільярда пойдзе, адпаведна, на сярэдні і капітальны рамонты.**

Плануецца, што ў 2001 годзе будзе скончана будаўніцтва аб'язной дарогі вакол станцыяў Гаўя Івейскага раёна і Наваельня Дзятлаўскага. Капітальны рамонт маюць правесці на 8-кіламетровым адрэзку дарогі Баранавічы-Гродна, каля Зэльвы.

Асноўным аб'ектам дарожнага будаўніцтва Гарадзенскай вобласці з'ўляецца дарога ў аб'езд Гродна, ад памежнага пераходу «Брузгі-Кузьніца» да трасы Гродна-Скідаль.

**П.М.**

# Арандаваць стала даражэй

**З пачатку снежня 2000 года па 10 красавіка 2001 года значна ўзрасла цана арэнды жылля ў Гродне. На асобных сегментах рынку арэнды жылля рост коштаў склаў больш за 50 працэнтаў; зразумела, што за аснову разлікаў узятыя цэны на ўмоўных адзінках.**

У сувязі з «паскораным ростам дабрабыту» беларусаў і, адпаведна, іх «узрослай» магчымасцю набыцця кватэраў, галоўная прычына павелічэння цэнаў на арэнду жылля ў Гродне тоіцца ў падвышэнні попыту на арэнду над адпаведнай прапановай. Калі ў мінулым годзе попыт на арэнду жылля ў Гродне перавышаў прапанову на 20-30 працэнтаў, то, аналізуючы рыэлтарскую інфармацыю па Гродне за сакавік 2001 года, попыт перасягае прапанову больш чым на 60 працэнтаў. Пры гэтым, калі не ўлічваць прапановаў «арэнды» жылля на суткі, перавышэнне попыту ўжо складае 100 працэнтаў.

Як і раней, цана арэнды жылля залежыць ад тэрміну арэнды (адзін дзень, месяц, шэсць месяцаў, год), ад формы аплаты (перадаплата альбо не, з улікам ці без аплаты за камунальныя ды іншыя паслугі), ад месцазнаходжання прапанаванага ў арэнду жылля, яго «якасці» (колькасці пакояў, планіроўкі, дагледжанасці, наяўнасці мэблі, тэлефона і гэтак далей), ад іншых фактараў. Кошты вагаюцца ад пяці ўмоўных адзінак за суткі да 1000 умоўных адзінак і болей за год.

Аналізуючы прапановы апошніх двух тыдняў на рынку арэнды жылля ў Гродне (**гл. табліцу**), можна адзначыць, што найбольшая колькасць прапановаў - з тэрмінам адзін дзень. Аднапакаёвыя і двухпакаёвыя кватэры ацэньваюцца, такім чынам, ад пяці да 15 умоўных адзінак ці 10 000 беларускіх рублёў. Яшчэ два гады таму прапановы «на суткі» (ці як яшчэ называюць «на ноч») складалі толькі пяць-дзесяць працэнтаў ад агульнай колькасці прапановаў на рынку арэнды жылля. Сёння гэты паказчык перасягнуў 50-працэнтны рубеж. Атрымліваецца, ёсць попыт... І сапраўды, куды больш выгадна здаць, напрыклад, разоў дзесяць у месяц аднапакаёвую кватэру на суткі і атрымаць ў сярэднім 100 тысяч беларускіх рублёў, чым 40-45 умоўных адзінак пры здачы кватэры на месяц. Калі ж удаецца здаць кватэру на суткі больш, чым дзесяць разоў у месяц, то выгада яшчэ больш.

Зусім мала прапановаў па «арэндзе» жылля на працяглы тэрмін (шэсць месяцаў, год). А калі і ёсць такая прапанова, то патрабуецца перадаплата за ўвесь будучы тэрмін пражывання (радзей за палову тэрміну арэнды).

Зменшылася колькасць здаваемых кватэраў з тэлефонам. Гэта і зразумела - уласнік баіцца, каб даход па арэндзе не аказаўся ў некалькі разоў менш, чым будучая аплата за тэлефонныя паслугі. Выпадкаў такіх ужо шмат. Пры гэтым спаганяць за «перамовы» рэдка калі атрымліваецца.

Прапановы па «арэндзе» на месяц раней складалі амаль палову колькасці ўсіх прапановаў на рынку арэнды жылля. Сёння толькі недзе чацвёртую-пятую частку. Сярэдні кошт арэнды добраўпарадкаванай аднапакаёвай кватэры на месяц наблізіўся да 50 умоўных адзінак і пры такім вялікім попыце можа яшчэ і падрасці. Магчыма, бліжэйшым часам цана арэнды ўказанай катэгорыі кватэраў дасягне адзнакі ў 60 умоўных адзінак.

Наогул жа, да цэнавога піку сярэдзіны 90-х гадоў на рынку арэнды жылля засталося прыблізна 40 працэнтаў «уверх». У сувязі з тым, што рост коштаў на рынку арэнды жылля адбываецца ва ўсіх буйных гарадах Беларусі, попыт расце, то і цэны па арэндзе жылля 1995 года могуць да канца 2001 года быць ужо ідэнтычнымі. Асабліва належыць адзначыць, што з глабальным ростам цэнаў у Беларусі на газ, электраэнергію, камунальныя паслугі наогул, працэс будучага росту цэнаў на ўсіх сегментах рынку арэнды жылля відавочны.

Грамадзянам Беларусі застаецца толькі марыць пра ўласную добраўпарадкаваную кватэру і «спадзявацца», каб прэзідэнцкіх 100 даляраў ЗША хапіла на арэнду жылля і ўбогае існаванне.

**Кацярына Зволін**

| Месцазнаходжанне | Пакоі | Планіроўка | Наяўнасць | | Тэрмін арэнды | Кошт |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | мэблі | тэл. | | |
| вул.Горкага | 1 | хрушч. | + | + | суткі | 10 у.а. |
| вул.Урублеўскага | 1 | хрушч. | + | - | 1 месяц | 45 у.а. |
| пр-т Касманаўтаў | 1 | хрушч. | + | + | суткі | 10000 бел.руб. |
| вул.В.Соламавай | 1 | новая | - | - | 6 месяцаў | 250 у.а. |
| пр-т Я.Купалы | 1 | новая | + | + | суткі | 10 у.а. |
| вул.Захарава | 1 | хрушч. | + | - | 1 год | 500 у.а. |
| вул.Дзяржынскага | 1 | чэшская | + | + | суткі | 10000 бел.руб. |
| вул.Таўлая | 1 | новая | + | - | суткі | 5 у.а. |
| вул.Каліноўскага | 1 | чэшская | + | + | 1 месяц | 50 у.а. |
| Індурская шаша | 1 | новая | + | - | суткі | 5 у.а. |
| вул.Дамброўскага | 1 | хрушч. | + | - | суткі | 5 у.а. |
| вул.Суворава | 1 | новая | - | - | 1 месяц | 35 у.а. |
| вул.Фамічова | 1 | чэшская | + | - | суткі | 10000 бел.руб. |
| вул.Леніна | 1 | новая | + | + | суткі | 10 у.а. |
| пр-т Будаўнікоў | 2 | чэшская | + | + | 1 месяц | 50 у.а. |
| вул.Гая | 2 | хрушч. | + | - | суткі | 5 у.а. |
| вул.Кляновая | 2 | новая | + | + | 1 год | 600 у.а. |
| вул.Урублеўскага | 2 | чэшская | + | - | суткі | 10 у.а. |
| вул.Дзяржынскага | 2 | чэшская | + | - | суткі | 10000 бел.руб. |
| вул.Багдановіча | 2 | брэжн. | + | - | суткі | 5 у.а. |
| вул.Паўлоўскага | 2 | брэжн. | + | + | суткі | 15 у.а. |
| вул.Пушкіна | 3 | хрушч. | + | + | 6 месяцаў | 300 у.а. |
| пр-т 40 год Перамогі | 3 | новая | + | - | 1 месяц | 40 у.а. |
| вул.Горкага | 4 | новая | + | + | 1 год | 1000 у.а. |

